# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 25 (89) 30 чэрвеня - 6 ліпеня 2000 г. Кошт 50 руб.


## Сьвяты і будні: кожнаму сваё



Фота IREX



*Зноў не далі зарплату. Ну, і што з таго, скажа чытач, многім не даюць. Бюджэт пусты – вось бюджэтнікі і сядзяць на бабах. А жыцьцё, між тым, квітнее, і сьвяты ідуць па раскладу: Вялікі Першамай, Вялікая Перамога, Дзень Гораду і Рэспублікі, пачатак Вялікай Вайны і Сьвята Вызваленьня, і г.д., і г.д.*

*А мо гэта не на бюджэтныя сродкі, а на крэўныя зьберажэньні з кішэні Лукашэнкі ці Дражына з Красновым ладзяцца парады ды гуляньні? Відаць, немалая тая кішэня, што хапае і на фэервэркі, і на палацы, і на рэгулярныя заахвочваньні набліжаных.*

*Ці не бяруць наш кіраўнік дзяржавы ды іншае начальства "дзьве стаўкі"? А мо калымяць дзе "на старане", вось і маюць такія, як гаворыць цяперашняя моладзь, "бабкі"? Калі так пойдзе далей, то і заробак хутка будуць выдаваць як найвялікшую ласку "лично от президента", ці "губэрнатара", як яны сябе называюць.*

*А пакуль што той ласкі няма, як няма і зарплаты. Есьць жа толькі шматлікія сьвяты. Нават на дзень мэдыка "людзям у белых халатах" не далі доўгачаканага заробку, былі адныя граматы і віншаваньні, якія, вядома, у рот не пакладзеш і хлеба на іх ня купіш. А маглі б выдаць асобным ударнікам "ад шпрыца і скальпеля", у якасьці заахвочваньня, месячны заробак ці хаця б аванс. Менш было б незадаволеных, а мэдыкам – ня так сорамна было б перад сем'ямі. Ня творчыя людзі ўсё ж сядзяць ва ўладзе: ні фантазіі, ні кемлівасьці. Праўда, свае аклады атрымліваюць рэгулярна, як і езьдзяць на бясконцыя нарады, сходы, перамовы ды іншыя мерапрыемствы. Нешта я ня чуў, каб не адбыўся чарговы ваяж у Маскву якогась чынушы ці прэзыдэнт ня змог з-за фінансовых праблемаў паляцець на спэцсамалёце куды захоча.*

*А тым часам тысячы, у прыватнасьці, мэдыкаў і пэдагогаў сядзяць бяз грошай, і ня могуць выехаць нават у час водпускаў да бацькоў на сяло, бо няма за што. Ня думаю, што нашыя дактары працуюць менш ды горш за "вэртыкальшчыкаў", а віна мэдсёстраў у развале эканомікі большая за віну кіраўніка дзяржавы. Аднак менавіта простыя людзі церпяць ад дзяржаўнага бязладзьдзя, а аўтары гэтага бязладзьдзя нічога не губляюць ні ў зарплатах, ні ў "палатах". У іх кожны квартал ідзе "небывалы эканамічны рост".*

*Здаецца, ня вельмі даўно мы гэта праходзілі, бо як і за саветамі, толькі ў нас можна "вучыцца, лячыцца і працаваць – бясплатна". Хаця, прабачце, вучыцца і лячыцца – гэта ўжо ў мінулым, а вось працаваць задарма – колькі заўгодна.*

*Трывай, беларусе...*

**Васіль АЎРАМЕНКА**

ТРЫВОЖНАЯ НАВІНА З-ЗА КРАТАЎ

## Адчайны крок супраць несправядлівасьці

Рэдакцыя атрымала копію ліста Дзьмітрыя Абадоўскага, які ў чаканьні свайго пасьлясудовага лёсу ўтрымліваецца ў магілёўскім спэцізалятары. Учора раніцай Д.Абадоўскі абвесьціў галадоўку як апошнюю спробу абараніць свой гонар і справядлівасьць і дамагчыся адмены прысуду за злачынствы, якіх, як падрэсьліваецца ў лісьце, ён не зьдзяйсьняў.

Нагадаем, што ў сакавіку пасьля шматдзённага судовага слуханьня ў Цэнтральным раённым судзе г.Магілёва пад старшынствам судзьдзі Андрэя Юрчанкі справы Д.Абадоўскага па абвінавачваньні яго ў згвалтаваньні і дзьвюх крадзяжах, хлопец быў прыгавораны да 5 гадоў і 3 месяцаў зьняволеньня. Пададзеная ім і ягонымі адвакатамі касацыйная скарга на неправадзейны прысуд, паведамляецца ў лісьце, па фармальных прыкметах вернутая назад у Цэнтральны суд і дагэтуль не разглядаецца. Асуджаны нагадвае, што ўсе доказы ягонай вінаватасьці, здабытыя падчас сьледства і нібыта пацьверджаныя ў ходзе суда, атрыманыя з парушэньнем закону, а на сьведку А.Новікава аказваўся прамы і жорсткі ўціск, што той неаднаразова прызнаваў у ходзе судовых паседжаньняў. Дзьмітры Абадоўскі зьвязвае расправу над сабой як помсту ўлады за палітычную дзейнасьць бацькі Сяргея Абадоўскага і брата Яся *(бацька вядомы ў краіне праваабаронца, а брат вымушаны быў год таму зьехаць у палітычную эміграцыю ў Польшчу – рэд.).*

Ліст Дзьмітрыя Абадоўскага з-за кратаў перададзены ўчора на волю праз бацьку і адрасаваны ў адпаведныя наглядныя і судовыя органы, а таксама ў шэраг важкіх міжнародных арганізацыяў. Дарэчы, па сьведчаньні бацькі, які меў з сынам гаворку на дазволеным спатканьні, Дзьмітры трымаецца годна, мужна і гатовы адстойваць свой гонар і справядлівасьць да канца. Ён выказаў таксама надзею, што справядлівы суд урэшце рэшт установіць ісьціну і ўсім удзельнікам гэтай "справы" аддасьць належнае.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па юрыдычных пытаньнях***

## Незаўважаная дата

Аказваецца, праляцелі 100 дзён з дня прызначэньня У.Ярмошына прэм'ер-міністрам ураду. Магчыма, што толькі радыё "Свабода" "не праспала" гэтую дату. На яе хвалях прагучаў камэнтар Аляксандра Саснова, былога міністра працы чыгіроўскага ўраду, а зараз – намесьніка дырэктара Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў.

Адзінае, што зьмянілася – гэта тое, што афіцыйны курс даляра хуткімі тэмпамі ідзе ў гару і набліжаецца да курсу "чорнага рынку" (там курс доўгі час стаіць на месцы). Увосень, калі на думку аналітыка, параўнальны эквівалент даляру і рубля прывядзе да абясцэньваньня пэнсіяў і заробкаў, спатрэбіцца запускаць "друкарскі станок".

Нязначны рост вытворчасьці ў прамысловасьці, што адбыўся ў гэтыя 100 дзён, аналітык тлумачыць выключна расейскім ростам вытворчасьці, які ў сваю чаргу поўнасьцю "стаіць" на спрыяльных цэнах на міжнародным рынку нафты. Аднак гэта можа быць лёгка "папраўлена", бо днямі краіны-здабыўцы нафты прынялі рашэньне аб падвышэньні квоты здабываемай нафты, што прывядзе да зьніжэньня цэнаў на яе.

## Гатовыя нават паўзьці

***23 чэрвеня ў Менску адбыўся сход заснавальнікаў асацыяцыі "Цэнтральная Расея", у якім акрамя расейцаў узялі ўдзел кіраўнікі "вэртыкалі" Менску, Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Менскай вобласьцяў.***

Асацыяцыя "Цэнтральная Расея" *(далей – "ЦР")* была заснаваная ў канцы 1990-га году 12-цю суб'ектамі Расейскае Фэдэрацыі. Летась у яе склад увайшлі чатыры ўсходнія беларускія вобласьці й Менск. Гэта стала, так бы мовіць, "апафеозам" лукашэнкавай палітыкі яднаньня з расейскімі рэгіёнамі. І вось цяпер упершыню заснавальнікі гэтай асацыяцыі на свой сход сабраліся ў беларускай сталіцы.

Уваходжаньне беларускіх вобласьцяў у "ЦР" выглядае як геаграфічны анэкдот, а абмеркаваньне ў нас вострых расейскіх праблемаў – ужо як палітычная некарэктнасьць. У прыватнасьці, паводле словаў губэрнатара Яраслаўскае вобласьці Анатоля Лісіцына, важнейшым пытаньнем парадку дня менскага паседжаньня заснавальнікаў "ЦР" быў пункт пра праект бюджэту Расейскае Фэдэрацыі на 2001 год.

"Белорусская деловая газета" паведаміла, што расейскі прэзыдэнт У.Пуцін нэгатыўна выказаўся адносна правядзеньня падобнае сустрэчы ў Менску. Магчыма, таму і А.Лукашэнка адмовіўся асабіста павітаць удзельнікаў сходу, хаця ў папярэднім парадку дня ягоны выступ быў пазначаны ці ня першым. Замест яго прывітаньне расейскім губэрнатарам і беларускім "вэртыкальшчыкам" перадаў віцэ-прэм'ер Леанід Козік.

Увогуле, калі беларускі бок быў прадстаўлены кіраўнікамі вобласьцяў, дык ад Расеі прыбылі толькі два губэрнатары – Лісіцын і Старадубцаў з Тулы. Астатнія прыслалі замест сябе другіх-трэціх асобаў. Расейскі ўрад быў прадстаўлены ня віцэ-прэм'ерам Хрыстэнкам, як чакалася, а міністрам у справах нацыянальнасьцяў ды рэгіёнаў, намесьнікамі міністраў фінансаў і транспарту.

Расейскія губэрнатары цяпер перажываюць нялёгкі час выстройваньня ў пуцінскую ўладную "вэртыкаль". З гэтае нагоды беларускі прэм'ер У.Ярмошын, які прымаў "землякоў" у Доме ўраду, зазначыў, што ён "душэўна ставіцца" да Цэнтральнае Расеі, але цяпер пабойваецца, як бы з умацаваньнем цэнтральнае расейскае ўлады ня страціла свой уплыў асацыяцыя "ЦР", у выніку чаго яе беларускім партнэрам "давядзецца прапаўзаць там, куды раней ужо праклалі шлях"...

***Валер КАЛІНОЎСКІ, Менск***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Аблвыканкам вырашыў узяць у мясцовым аддзяленьні "Беларусбанку" крэдыт на 6 мільёнаў даляраў, каб набыць 100 камбайнаў "Дон-1500". Цікава ня тое, што абласная адміністрацыя такім чынам праяўляе клопат пра калгасную вёску, а тое, што немалыя грошы ў сёньняшняй Беларусі шукаюцца ў нібыта мясцовым банку. Насамрэч грошы гэтыя, зразумела, бюджэтныя. Пазыка ў такім разе падаецца ня больш, чым прыкрыцьцём для апэрацыі, якая ніколі не атрымае завяршэньня, бо хто ж бярэ ў сабе, каб вярнуць, ці хто вяртае сабе, калі бярэ.

Абласны цэнтар днямі наведалі дэпутаты заканадаўчай палаткі, якія выбіраліся на Магілёўшчыне. Яны цярпліва выслухалі прэтэнзыі з боку старшыні аблвыканкаму і ягоных намесьнікаў за недастатковую ўвагу да праблемаў вобласьці, запэўнілі, што больш такое "не паўторыцца". А што зробіш? Увосень новыя выбары, так хочацца застацца на сваіх менскіх месцах. Мяркуецца, што вырашаць гэта будуць выбаршчыкі, аднак "народныя выбраньнікі" ня ведаюць, ад каго насамрэч залежыць іхны лёс.

Магілёўская міліцыя затрымала дзьвюх валютчыкаў, якія падчас абмену даляраў несьвядомым грамадзянам, што карыстаюцца "чорным рынкам", спрытна падманвалі людзей. Гавораць, праўда, што такіх валютчыкаў у нас значна больш за дзьвюх. Паверыць гэтаму можна. Паколькі існуюць афіцыйны і неафіцыйны курсы валюты, заўсёды будуць махляры ды іхныя ахвяры. Ніякай міліцыяй не перамагчы сытуацыю, якая мае эканамічныя корані, а не маральныя толькі. Гэта па сабе ведаюць усе разьвітыя краіны. Мы ж у гэтую прыстойную сям'ю ўпарта не імкнемся. У нас, як вядома, свой курс. Ва ўсім. Што там нейкая валюта!

Ужо другі год цягнецца капітальны рамонт адной зь лепшых школ Горацкага раёну – у пасёлку Леніна. Калісьці мэмарыяльны пасёлак (тут помнік польскай Касьцюшкаўскай дывізіі, якая загінула ў баі з фашыстамі пад гэтым паселішчам) падтрымваўся ўсім раёнам і нават вобласьцю. Цяпер застаўся сам-насам, ад чаго пакутуе найперш сацыяльная сфэра. Ахвярная чарга, як бачым, дайшла да школы. Можа пасьля таго, як па ўсёй краіне адбудуюць лядовыя палацы, гэтым апірышчам адукацыі і выхаваньня выпадзе палёгка. А пакуль школы як на пэрыфэрыі, так і ў гарадах зусім ня лічацца прыярытэтнымі аб'ектамі.

Пачасьціліся выезды сапёраў на месцы, дзе людзі дасёньня знаходзяць небясьпечныя рэшты мінулай вайны. Мінулым месяцам гэта адбывалася ажно 11 разоў. Дагэтуль знаходзяць клапатлівыя людзі ў нашай зямлі і названыя, ня ўсе пахаваныя, як патрабуе таго мараль і ўдзячнасьць. Займаюцца гэтым пошукавыя грамадзкія арганізацыі, а не дзяржава. Карпатлівую і цяжкую гэтую працу дзяржава ня любіць. Ёй, то бок начальству, больш да спадобы парады, урачыстыя сходы, сувэніры, тосты... Такім быў ці ня ўвесь мінулы тыдзень і частка гэтага. Цяпер стаім на парозе Дня рэспублікі. Установлены Ўказам дзень гэты мала кранае людзей, бо ідэалягічныя сьвяты існуюць зусім не для радасьці, а для вывешваньня сьцягоў і ўрачыстых прыёмаў, на якія трапляюць "самыя-самыя дастойныя".

У абласным цэнтры адпаведныя камісіі праверылі ўсе інтэрнаты. І жахнуліся: антысанітарыя, завышаная вільготнасьць у жылых і службовых пакоях, безкультур'е. Розьніцы паміж інтэрнатамі заводзкімі і студэнцкімі няма. Ні ў каго не хапае грошай на прыстойнае захоўваньне "общежитий". Вось і выходзіць адукаваная эліта ў жыцьцё з трывалым вопытам безкультур'я ва ўсім. Чаго ж зьдзіўляцца тады, адкуль бяруцца начальнікі-хамы, глухія чыноўнікі, нявыхаваныя настаўнікі, цынічныя мэдыкі. З інтэрнатаў, вядома. Камісія, дарэчы, праканстатавала становішча й на гэтым сваю місію палічыла завершанай. Відаць, у ёй таксама былі выхаванцы інтэрнатаў.

На камбінаце "Белшына" цяпер ці ня больш за сваё вытворчыя справы клапоцяцца пра выкананьне тэлеграмы з адміністрацыі раёна аб "прыняцьці мераў па аказаньні дапамогі сельскай гаспадарцы". Першамайскі райвыканкам пры гэтым называе канкрэтныя лічбы такой "дапамогі": камбінату трэба забясьпечыць нарыхтоўку сена агульнай вагой у 4 тыс. 128 тонаў. Кіраўніцтва прадпрыемства абавязанае справаздачыцца аб ходзе нарыхтоўкі кармоў кожны аўторак. "Белшына", сумленна гаворачы, узятая мною "для прыкладу", бо спаслацца можна на любое прадпрыемства, якому сёньня загадваюць усё кінуць і – ратаваць вёску. І ўсе сапраўды ўсё бездакорна кідаюць. І ратуюць. Вось ужо больш за 80 гадоў...

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

## Магілёўскія кангрэсмэны будуць трымацца адзінай пазыцыі

***У мінулую нядзелю прадстаўнікі дэмакратычных партыяў і грамадзкіх рухаў вобласьці правялі рабочы сход па вылучэньні і выбраньні дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў, што адбудзецца ў Менску 2-га ліпеня. Магчымасьць прыняць удзел у форуме скарысталі больш за 20 арганізацыяў – ад шырока вядомых да тых, якія толькі апошнім часам заявілі пра сябе.***

Сярод тых, хто назваў сваіх кандыдатаў на гэтае агульнанацыянальнае апазыцыйнае мерапрыемства, мясцовыя суполкі, філіі і арганізацыі руху БНФ "Адраджэньне" і партыі БНФ (В.Вячоркі), Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", Маладога Фронту, Усебеларускай Лігі жанчынаў, Фонда імя Льва Сапегі, Беларускага Хэльсінскага камітэта, Праваабарончага цэнтру "Вясна-96", Беларускай асацыяцыі журналістаў, шэрагу грамадзкіх ініцыятываў як палітычнага накірунку дзейнасьці, так і гуманітарнага.

У тэрытарыяльным пляне абласная дэлегацыя кангрэсмэнаў, у якую агулам уваходзіць 40 чалавек, выглядае наступным чынам: Магілёў, Бабруйск, Асіповічы, Шклоў, Крычаў, Хоцімск, Краснапольле, Бялыничы, Глуск, Слаўгарад, Касьцюковічы.

Пасьля абраньня дэлегатаў рабочы сход прадстаўнікоў каротка, але канцэптуальна абмеркаваў агульную для магілёўскіх кангрэсмэнаў пазыцыю на важкім для бягучага моманту Дэмакратычным форуме. Гаворка ідзе пра стаўленьне шырокіх палітычных і грамадзкіх сілаў краіны да маючых адбыцца ўвосень парлямэнцкіх выбараў, якія выканаўчая ўлада мяркуе правесьці выключна па ўласным сцэнары. З гэтым, як вядома, былі адпачатку нязгодныя ня толькі большасьць рэальных беларускіх партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, але і эўрапейскія структуры, што адсочваюць праблемы, зьвязаныя з правамі чалавека.

Выбары паводле сцэнару ўлады прывядуць да яшчэ большага зьмяншэньня паўнамоцтваў парлямэнту, які ўжо сёньня ёсьць толькі машынай для аднагалоснага галасаваньня, да "выбраньня" у яго выключна адданых прэзыдэнту (а не грамадзтву) людзей, да недапушчэньня партыйнага прадстаўніцтва ў заканадаўчым органе, – што будзе правакаваць людзей вырашаць вострыя сацыяльна-палітычныя пытаньні не-пасрэдна "на вуліцы", а не ў парлямэнцкай залі, як гэта прынята ў любой цывілізаванай краіне. Да таго ж Кангрэс мае намер патрабаваць ад улады нармальнага дапушчэньня прадстаўнікоў апазыцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі (найперш – БТ), спыненьня паліцэйскага перасьледу лідэраў і актывістаў апазыцыі.

P. S. Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком удзелу ў падрыхтоўцы і правядзеньні Кангрэсу не прымае. Безумоўна падзяляючы патрабаваньні гэтага форуму, КХП БНФ лічыць больш вартасным для краіны ў гэты час правядзеньне прызначанага на 29 ліпеня Ўсебеларускага Зьезду Незалежнасьці. Што тычыцца выбараў, то КХП БНФ даўно вызначылася ў сваім стаўленьні да іх: ніякіх выбараў ва ўмовах цяперашняга рэжыму быць ня можа, гэта можа быць толькі фарсам, у якім партыя не зьбіраецца браць удзелу ні пры якіх "касмэтычных" умовах. Цяпер важней за ўсё – незалежнасьць Бацькаўшчыны, якую трэба абараніць, пакуль ня сталася позна.

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі*

## Час ацэніць вынік

***У мінулыя выходныя ў Магілёве прайшло паседжаньне Кардынацыйнае рады "Рэгіянальнай Беларусі", на якую прыехалі ейныя сябры з усіх абласных цэнтраў краіны.***

Нарада, якую вёў старшыня Сямён Домаш, прайшла ў грамадзкім аб'яднаньні "Кола сяброў". На парадку дня было некалькі пытаньняў. Некаторыя зь іх тычыліся арганізацыі працы самое Рады, а менавіта – структуры міжрэгіянальнага інфармацыйнага забесьпячэньня і канцэпцыі ўласнага друкаванага сродку. Пасьля спрэчак і ўзгадненьняў стратэгічныя накірункі былі ўхваленыя, неабходныя нормы зацьверджаныя.



Між пытаньняў, што выходзілі за межы ўнутранае дзейнасьці, былі такія: Кангрэс дэмакратычных сілаў, Усебеларускі Зьезд, Беларускі нацыянальны Ўнівэрсытэт. Зразумела, што былі падтрыманыя як самі гэтыя намеры, так і ўласны ўдзел у іхным ажыцьцяўленьні.

Не абыйшлі сваёй увагаю прадстаўнікі рэгіёнаў і крыўду грамадзкіх аб'яднаньняў Менску, што ўзьнікла ў сувязі з паўстаньнем "Рэгіянальнае Беларусі". Таму быў прыняты адпаведны зварот да менскіх палітычных, грамадзкіх, прафсаюзных арганізацыяў з прапановаю далучыцца да супольнай працы, бо пры ўсёй павазе да некаторых тактычных разыходжаньняў, час не даруе міжсобскіх спрэчак тады, калі патрабуюцца зьяднаньне, кардынацыя і выніковасьць у працы.

*Уласная інфармацыя*

## Аўтапарку ўсіх не перавезьці

***Звычайнай зьявай стаўся ў Глуску так званы "нявыезд на лінію" аўтобусаў прыгарадных маршрутаў. Зь вясны аўтобусы перасталі езьдзіць да адносна блізкіх ад райцэнтру вёсак. Пазьней спыніліся маршруты на ўсіх асноўных унутраных маршрутах. Цяпер аўтобусы ходзяць толькі за межы раёна.***

Дырэктар мясцовага аўтапарку Віктар Лазарэнка тлумачыць гэта тым, што з-за адсутнасьці фінансаваньня даволі рэзка скарацілі сваю вытворчую ёмістасьць. Яшчэ зусім нядаўна парк налічваў 120 машынаў. Цяпер агулам іх засталося крыху больш паловы, у ліку якіх толькі 35 аўтобусаў. Усе яны старыя і зношаныя, таму вымагаюць пастаяннай прафіляктыкі альбо пэрыядычнага рамонту. Патрэбных грошай на гэта няма, людзей – таксама. Тым больш іх няма на тое, каб адправіць аўтобус у "капіталку" на спэцыялізаванае прадпрыемства, што знаходзіцца ў Гомлі. Даводзіцца, як гаворыць кіраўнік аўтапарку, круціцца самім, што таму колу.

Але такая самадзейнасьць таксама ладна каштуе: апошні раз уласнымі сіламі рамантавалі ЛАЗік ажно 9 месяцаў. Толькі рамонтнікам ад таго і было добра, бо мелі пастаянную працу. А колькі тым часам выкарысталі на гэта сродкаў – ці не хапіла б на новы аўтобус...

Зразумела, што аўтапарк ніколі не "купаўся" у паліве. Даюць яго абмежавана. Па строгіх лімітах, якія фармуюцца не ад патрэбаў і неабходнасьці эканоміць, а – ад наяўнага. Ну, а якая ў краіне нашай наяўнасьць аўтамабільнага паліва – што для прыватнікаў, што для "дзяржаўнікаў", вядома ўсім, хто з гэтым мае справу. Да таго ж аўтапарк даўно вінен асіповіцкай нафтабазе, да якой замацаваны, больш за 10 мільёнаў. Той, аднак, час ад часу загадваюць адпускаць глускім партнэрам паліва "на павер". Такім чынам і пазыка накопліваецца, і ўвогуле сытуацыя ўскладняецца для ўсіх.

Тым часам машыны з аўтапарку, уключна з тымі, што возяць людзей, усё часьцей выходзяць на лінію ў небясьпечным стане. Аварыйнымі прызнаюць самі спэцыялісты аўтапарку больш за 50 шынаў, якія стаяць на аўтобусах, і на якіх працягваюць езьдзіць, бо грошай на набыцьцё новых няма (адна шына каштуе больш за 90 тыс. руб.). Ад аварыяў глускія аўтобусы ратуюцца толькі Богам і высокай кваліфікацыяй сваіх кіроўцаў.

Яшчэ адна нявырашаная праблема – кошт праезду. Ён высокі, таму гаворка ідзе не ў сацыяльным ключы, а ў вытворча-эканамічным. Кошт праезду не вяртае затратаў на эксплюатацыю машынаў. Таму пасажырскія перавозкі для аўтапарку стратныя, прычым значна. За два апошніх месяцы, напрыклад, аўтапарк "зарабіў" на пасажырах ажно 3 млн. руб., якія ня ведае чым пакрыць. Аўтобусьнікі скардзяцца на тое, што вакол шмат ільготнікаў, якія няпоўна альбо зусім нічога ня плацяць за праезд. Ніхто з спэцыялістаў аўтапарку ня супраць таго, што ўлада клапоціцца пра асобныя катэгорыі грамадзянаў, аднак яны задаюць рэзоннае пытаньне аб тым, чаму гэта адбываецца за іхны кошт? Справядліва было б, лічаць яны, каб дзяржава й пакрывала страты, што прыносіць прадпрыемству сваёй "клапатлівасьцю".

*Ларыса КАНАШЭВІЧ, Ігар КІРЫН*

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**27 чэрвеня аргкамітэт Усебеларускага Зьезда за Незалежнасьць накіраваў у Менскі гарвыканкам заяўку на ягонае правядзеньне 29 ліпеня.**

Яе падпісалі сустаршыні аргкамітэта народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, паэт Генадзь Бураўкін, акадэмік Радзім Гарэцкі і прафэсар Анатоль Грыцкевіч. У форуме, як мяркуецца, прымуць удзел 800 чалавек.

●

**Лідэры фракцыяў расейскай Дзярждумы Рыгор Яўлінскі, Барыс Нямцоў і Яўген Прымакоў падпісалі ліст да Лукашэнкі.**

Яны заклікалі яго забясьпечыць восеньскія парлямэнцкія выбары на ўмовах дэмакратыі і патрабаваньнях у гэтай сувязі з боку АБСЭ. У адваротным выпадку, справядліва папярэджваюць яны, будзе цяжка забясьпечыць прызнаньне легітымнасьці гэтых выбараў міжнароднай дэмакратычнай супольнасьцю.

●

**У Варшаве, дзе гэтымі днямі праходзіць канфэрэнцыя "Міжнародны форум за дэмакратыю", 26 чэрвеня адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускай апазыцыі з Дзяржаўным сакратаром ЗША Мадлен Олбрайт і сакратаром Дзяржаўнага дэпартамэнту па правах чалавека Гаральдам Коў.**

У сустрэчы ўзялі ўдзел Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Зьміцер Бандарэнка, Ніна Стужынская, Людміла Грязнова ды іншыя. Беларускія апазыцыянэры гаварылі аб недапушчальнасьці выкарыстаньня расейска-беларускага саюза для далейшай інкарпарацыі Беларусі ў Расею. 26 чэрвеня беларуская дэлегацыя таксама сустрэлася зь вядомым фінансістам Джорджам Сорасам, які выступіў адным з арганізатараў варшаўскай канфэрэнцыі. Спадар Сорас цікавіўся сытуацыяй у Беларусі, аднак пытаньне аб вяртаньні Фонду Сораса ў Беларусь не абмяркоўвалася.

●

**Сустрэча дзяржаўнага сакратара ЗША Мадлен Олбрайт з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі гаворыць аб сапраўды вялікай зацікаўленасьці Злучаных Штатаў сытуацыяй у Беларусі.**

Такое меркаваньне выказаў віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканьня, старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Па словах Лябедзькі, падчас сустрэчы са спадарыняй Олбрайт прадстаўнікі беларускай дэмакратычнай апазыцыі "атрымалі запэўніваньні ў палітычнай і маральнай падтрымцы афіцыйнага Вашынгтона". Злучаныя Штаты, зазначыў Лябедзька, вельмі зацікаўленыя, каб Беларусь ішла да дэмакратыі, застаючыся пры гэтым сувэрэннай дзяржавай. "Мадлен Олбрайт падзяляе заклапочанасьць беларускай апазыцыі тым, што сёньня ў Беларусі ня могуць прайсьці дэмакратычныя свабодныя парлямэнцкія выбары", – сказаў кіраўнік АГП.

●

**Кіраўнікі трох найбуйнейшых галіновых прафсаюзаў Беларусі, а таксама Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў накіравалі ў Міжнародную арганізацыю працы (МАП) афіцыйную скаргу на парушэньні ўладамі Беларусі асноўных прынцыпаў МАП, сябрам якой ёсьць Беларусь.**

У скарзе адзначаныя факты грубага парушэньня ўладамі правоў на стварэньне прафсаюзаў без папярэдняга дазволу і на страйк, а таксама выпадкі актыўнага ўмяшальніцтва ў дзейнасьць прафсаюзаў і дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыкмеце. Апрача таго, гаворыцца ў дакумэнце, дзяржаўныя органы і працадаўцы дапускаюць парушэньні пры заключэньні з прафсаюзамі дамоваў і пагадненьняў, а таксама падчас іхняй рэалізацыі.

●

**Фэстываль сярэднявечнай культуры ў Навагрудку павінен прыцягнуць да сябе ўвагу шырокіх колаў вучоных, творчай інтэлігенцыі і садзейнічаць адраджэньню гістарычнага духу гэтага горада – першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага.**

Такую думку выказала дырэктар Навагрудзкага гісторыка-краязнаўчага музэю Тамара Вяршыцкая, якая была сярод арганізатараў гэтага сьвята. У фэстывалі, які праходзіў 24-25 чэрвеня, бралі ўдзел каля 500 прадстаўнікоў прыкладна 40 ваенна-гістарычных клюбаў зь Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расеі і Эстоніі. Кульмінацыяй сьвята сталася інсцэніроўка падзеяў 1314 года, калі вялікае войска крыжакоў на чале з магістрам Тэўтонскага ордэна Генрыхам фон Плоцке аблажыла Навагрудзкі замак і пачало яго штурмаваць з дапамогай каменякідаў. Для стварэньня гістарычна дакладнай абстаноўкі на Замкавай гары, дзе знаходзілася тагачасная самая непрыступная крэпасьць ВКЛ, была ўзьведзеная частка сьцяны крэпасьці, якая злучыла недабудаваную вежу "Дазорац" з руінамі вежаў "Шчытаўка" і "Касьцёльная". Панараму бітвы назіралі дзясяткі тысячаў жыхароў Навагрудка й гасьцей горада.

●

**Суд Маскоўскага раёна Менску адмовіўся ўзбудзіць грамадзянскую справу па заяве Аб'яднанай грамадзянскай партыі супраць Менскага гарвыканкама.**

Прэтэнзіі палітычнай партыі да гарадзкіх уладаў тычацца таго, што гарвыканкам або забараняе праводзіць пікеты, або пераносіць месца пікетаваньня на пляцоўку для выгулу сабак у парку каля плошчы Бангалор. У сваім адказе судзьдзя Гусакова зазначыла, што паколькі ў заяве сябраў АГП вядзецца ў асноўным аб пераносе месца пікетаваньняў, а не аб забароне акцыяў, то на гэтай падставе ў разглядзе зыска ім было адмоўлена. Заяўляльнікі, аднак, лічаць, што перанос акцыі ў бязьлюдныя месца супярэчыць вызначэньню пікета й таму, па сутнасьці, азначае ягоную забарону. Сябры АГП зьбіраюцца абскардзіць рашэньне ў Менскім гарадзкім судзе.

## БЕЛАПАН для «ТМ»

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Крычава



***У шапіках мясцовага Белсаюздруку прадаўцы прыхоўваюць "Тыднёвік Магілёўскі".***

Выданьне кладуць ня толькі не на першы плян, дзе месяцаца "Советские Белоруссии" побач з газэтамі-крыжаванкамі ды эротыка-дэтэктыўнымі выданьнямі, але й часам і не на другі ці трэці, аддадзены рэдкім незалежным, а таксама літаратурным газэтам і часопісам. І толькі тады, калі настойліва замовіш менавіта "ТМ", прадаўшчыца дастае выданьне аднекуль зьнізу – з-пад стоса іншай пэрыёдыкі. Наўрад ці гэтае прыхоўваньне ёсьць ініцыятывай саміх прадавачак.

**Андрэй КУЗЬМІН**

### ...з Глуску

***У нашых крамах зноў падаражэў хлеб.***

Калі на мінулым тыдні кошт батона быў 157 рублёў, то на гэтым ён ужо каштуе на траціну больш – 190 руб. "Чорны" хлеб цяпер каштуе 187 рублёў.

***"Райвыканкам закрыт – усе на сельгаспрацах".***

Такую шыльду можна было б зараз замацаваць ля дзьвярэй будынку мясцовае ўлады. У гэтыя дні там практычна нікога няма – усе чыноўнікі нарыхтоўваюць сена. Нічога іншага не засталося і работнікам культуры, якія таксама кінулі свае бібліятэкі і клюбы дзеля працы на калгасных палёх.

***Прадстаўнікі санітарнай службы, падатковай інспэкцыі, а таксама фонда сацыяльнай абароны насельніцтва азнаёмілі мясцовых прадпрымальнікаў з новымі патрабаваньнямі.***

Асноўныя зь іх – наяўнасьць сэртыфікатаў якасьці на ўсю прадукцыю, перарэгістрацыя ўсіх дамоваў з прадаўцамі, якія працуюць з пачатку бягучага году, аплата ўзносаў у фонд сацыяльнага страхаваньня за кожнага работніка, неабходнасьць выкарыстаньня адмысловых лядоўняў для захоўваньня тавараў, што маюць кароткі тэрмін спажываньня й г.д.

***Апошнім часам райцэнтар літаральна захлынулі крадзяжы.***

Скралі прадукты ў "Кулінарыі" й суседнім вулічным шапіку. Злодзеі "прайшліся" па краме раённага вузла сувязі. Некуды зьнік тэлефаксавы з установы грамадзкага харчаваньня. Была нават спроба абрабаваць аўтастанцыю. Пра роверы і ўзгадваць няма чаго: іх крадуць штодзённа і адусюль: ад крамаў, дамоў, нават ад царквы. Зьнікаюць куры ў прыватным сэктары. Глушчане прызвычаіліся да гэтага й ужо нават і не зьвяртаюцца ў міліцыю з-за некалькіх там курак. Ці толькі калі зьнікае адразу штук па шэсьць, як гэта адбылося днямі.

Мяркуючы па ўсяму, злодзеяў у нас ніхто не палохае: ні Бог, ні Чорт, ні, тым больш, міліцыя.

**Ігар КІРЫН**

### ...з Шклову



***Такое ўражаньне, што намесьнік старшыні заканадаўчай беларускай палаткі Уладзімер Канаплёў пастаянна знаходзіцца ў родным раёне.***

Днямі ён віншаваў з заканчэньнем школы выпускнікоў, асабіста ўручыў 17 залатых медалёў і 23 срэбраных. Адбылася таксама гаворка з тымі, хто пачынае дарослае жыцьцё. І, як гаворыцца, на гэтым – усё. Дасюль абмяркоўваецца ў раёне той нечаканы факт, што гэтым разам У.Канаплёў абыйшоўся без традыцыйных для сваіх наведваньняў раёна падарункаў. Магчыма, што падарункам "малодой зьмене" вядомы паплечнік кіраўніка краіны палічыў ужо тое, што ўрачыстасьць адбылася ў раённым Доме саветаў, дзе месьціцца ўлада, хаця папярэдне для імпрэзы быў пазначаны раённы дом культуры.

***Толькі 2 гаспадаркі выканалі плян нарыхтоўкі сена.***

Астатнія калгасы ледзь дацягваюць да паловы "намечаных рубяжоў". Магчыма, што калгасы чакаюць на абяцаную ім гарадзкую дапамогу. У 5-ці гаспадарках сакавіцу яшчэ й не пачыналі.

***Усе шклоўскія калгасы не выконваюць "дзяржаўнага заказу" па надоях малака.***

А вось прыватныя гаспадары з гэтай задачай спраўляюцца. Ва ўсіх вёсках раёна закуп малака ад прыватных двароў ідзе пасьпяхова, рытмічна і ёміста. Сакрэту ніякага няма: свае каровкі накормленыя і дагледжаныя, калгасныя – галодныя і квёлыя. Толькі ня людзі, а прыгонная калгасная сыстэма вінаватая ў гэтым.

**Аляксандар ШЧАРБАК**

### ...з Бабруйску

***На дзень пачатку для СССР вайны з Гітлерам у горадзе была прэзэнтаваная выстава архіўных дакумэнтаў, якія распавядаюць пра папярэднія падзеі ў гісторыі горада.***

Экспазыцыя дакумэнтаў "Шляхамі змаганьня. 1917 – 1920" распавядае пра многіх забытых патрыётаў Бацькаўшчыны, якія пацярпелі ад карных апэрацыяў савецкага КГБ па выкрыцьці "ворагаў народу". Гэтых людзей няма ў школьных падручніках, іхныя імёны й учынкі ізноў замоўчваюцца, як тое было пры камуністах. Дакумэнты, што дэманструюцца на выставе, былі дасяганьнымі кароткі час нядаўняй незалежнасьці. Зараз жа ўсё вяртаецца назад. Аб гэтым з жалем гаворыць ініцыятар выставы, вядомая грамадзкая дзеячка і гісторык Ніна Стужынская зь Менску. Выстава выклікала цікавасьць гараджанаў, асабліва маладых, што сталася прычынай працягу ейнага экспанаваньня яшчэ на 2 тыдні.

***Згодна загаду Міністэрства аховы здароўя гарадзкі радзільны дом зноў зачынены – на заплянаваную мойку й дэзынфэкцыю.***

Пакуль гэтая ўстанова не адпавядае неабходным санітарна-эпідэміялягічным патрабаваньням, будучых маці прымае Кіраўская раённая бальніца, да якой яшчэ трэба даехаць.

***3 прычыны магілёўскай дэзынтэрыйнай эпідэміі спэцыялісты гарадзкога цэнтру гігіены*** з дапамогаю калегаў зь Менску правялі абследваньне мясцовага заводу малочных вырабаў. Чагосьці жахлівага не знайшлі, аднак вельмі сталы ўзрост прадпрыемства, а асабліва ягонага абсталяваньня – дрэнная гарантыя захаваньня якасьці прадукцыі. Таму было вырашана кантраляваць сытуацыю на заводзе штодня.

**Тацяна КОПЕЦ**

### ...зь Бялынычаў



***На другі дзень абласнога конкурсу "патрыятычнай песьні" імя Героя СССР, юнага партызана Лёні Лорчанкі ў райцэнтры на слупах зьявіліся ўлёткі РНЕ.***

Дзіўнае ня толькі гэтае супадзеньне, а й тое, што вось ужо два тыдні як начальства, міліцыя і кіраўнікі прадпрыемстваў, адказныя за "прилегающие" тэрыторыі, не зьвяртаюць на тое ніякай увагі. Жыхары тым часам спрачаюцца аб тым, колькі часу пратрымаліся б улёткі з нацыянальнай беларускай сымболікай.

***Падлічаны ўрон, які прынес раёну 20-хвілінны ўраган, што тыдзень таму праймчаўся над ягонай тэрыторыяй.***

У новых цэнах сума матэрыяльных стратаў складае больш за 6 мільёнаў рублёў. Для чалавека, далёкага ад грошай (а такіх у раёне большасьць, бо калгасьнікам, напрыклад, плацілі апошні раз за люты) больш зразумелым становіцца маштаб урону, калі ён даведваецца пра яго ў "натуральным выглядзе". А менавіта: вецер садраў дахі з 37 грамадзкіх пабудоваў і 13 жылых дамоў, без электрычнасьці засталіся 45 населішчаў і 15 фэрмаў. Урон ліквідуецца з дапамогай як мясцовых, так і суседніх "аварыйшчыкаў".

**Міхась КАРПЕЧАНКА**

